«НАШАЕ ЖЫЦЬЦЁ» — грамадзкая газэта

НАША ЖИЗНЬ

«НАША ЖИЗНЬ» — общественная газета

№6(30) июнь 2012

# БЕЛАРУСКІЯ СПЕВЫ ГУЧАЛІ Ў ГЕРМАНАВІЧАХ

26 траўня ў мястэчку Германавічы Шаркоўшчынскага раёну адбыўся бардаўскі фэст.

На запрашэнне грамадскай дзяячкі **Ады Райчонак** у Германавічы прыехалі **Андрусь Такінданг, Зміцер Бартосік, Аляксей Жбанаў, Раман Абрамчук, Раман Яраш, Цімох Авілін.**

На падворку літаратурна-мастацкага музея імя Міхася Райчонка ўвечары сабраліся чалавек семдзесят. Уся радня Ады Райчонак, сябры Цэнтра Драздовіча з Шаркоўшчыны, госці з Лепеля і Верхнядзвінска, журналісты і краязнаўцы з Глыбокага, каталіцкі святар з Лучаю. Некалькі дзяўчат прывандравалі аўтаспынам з Менску, дабіраліся па пяць-шэсць гадзінаў.

Жыхары Германавічаў, як звычайна, праігнаравалі бардаўскія спевы. Ці то знайшлі ў суботні вечар больш цікавы для сябе занятак, ці то пабаяліся, што пра іх прысутнасць у "нядобранадзейнай" кампаніі даведаецца начальства. Ада Райчонак пракаментавала вершам абыякавасць мясцовых да незалежнага культурніцкага жыцця.

"Няхай я persona non-grata  
Ў роднай сваёй старане,  
Упэўнена я, што нашчадкі па-добраму  
Ўспомняць мяне.



Я знаю, настане часіна,  
Народ мой успомніць мяне,  
Калі к нам прыедзе "Пагоня"  
На белым прыгожым кані".

Зміцер Бартосік заспяваў першым. Выканаў тры песні расійскіх бардаў-"шасцідзясятнікаў" у перакладзе **Рыгора Барадуліна.** Сваю частку канцэрта скончыў спевам пра Вільню "Такія месты проста так не пакідаюць".

На сцэну выйшаў Аляксей Жбанаў. Сярод іншых твораў праспяваў "Песню філарэтаў", тэкст якой напісаў у турме ў 1824 годзе **Антон Адынец,** удзельнік таемнага студэнцкага таварыства.



Выступілі музыкі з вёскі Вялікі Поўсвіж Лепельскага раёна. **Васіль Шкіндзер** граў на дудзе, **Вольга Зарэцкая** – на скрыпцы, **Уладзімір Крыцкі** – на барабане. Яны выканалі некалькі старадаўніх мелодый ды заклікалі станчыць беларускі танец "Вераб'і".

Пасля была своеасаблівая рэкламная паўза. **Юлія Бука,** беларускамоўная арганізатарка вясковага турызму, распавяла пра сваю сядзібу ў вёсцы Валодзькава Глыбоцкага раёна. Танны адпачынак у звычайных вясковых хатах гаспадыня падае як адмысловую "фішку". "Гэта не штучны адпачынак за вялікім плотам у катэджы з еўрарамонтам. Людзі, якія прыязджаюць, бачаць, што Беларусь – гэта не шыкоўнае жыццё, а складаная і цяжкая праца", - кажа спадарыня Юлія.

Весяліць гледачоў узяўся гурт "Рэха". І ў іх гэта файна атрымалася. Андрусь Такінданг спяваў і граў на домры, Яўген Шурмей і Кастусь Лісецкі – на гітарах.

Свае вершы прачытаў паэт з Шаркоўшчыны **Міледзій Кукуць.** Людзям дужа спадабалася яго вострасатырычная паэма пра барана, якога паставілі старшынём калгаса.

Раман Яраш і Цімох Авілін праспявалі а'капэла некалькі народных твораў з Палесся. Потым выканалі свой спеў, прысвечаны галоўнай дзяржаўнай газеце, ды яшчэ некалькі спеваў.

Апошнім выступаў бард Раман Абрамчук. Парадаваў гасцей то народнымі, то сваімі ўласнымі спевамі. Пасля канцэрту на падворку выканаўцы і гледачы сабраліся ў музеі на вячэру. Вечар скончыўся цёплай сяброўскай размовай.

**Кастусь Шыталь**  
Германавічы, 26 траўня 2012 года.

# «РОК-САЛІДАРНАСЦЬ» НА СЬВЯЦЕ БЫКАВА

Калі за савецкім часам у краіне нават рок-музыка была пад забаронай, маладыя нефармальныя музыкі наўпрост зьвярталіся па дапамогу да беларускага пісьменьніка сусьветнай значнасьці **Васіля Быкава**, пра што ў прэсе пакінуў сьведчаньні тагачасны прэзідэнт рок-клюбу «Няміга» **Анатоль Мяльгуй**, які найбольш часта расказваў пра мудрую параду клясыка адпачатку навучыцца самім адстойваць свой куток, сваю мову, свой духовы скарб. Парада тая загартавала трывалы нацыянальны рок-рух, які пасталеў, стаў найбольш уплывовым у сваім асяродку і... Ня страціў сувязі з Быкавым пасьля ягонай сьмерці. 19 чэрвеня на радзіме Васіля Быкава, ля ягонай былой хаты ў вёсцы Бычкі на Віцебшчыне, дзе цяпер месьціцца музэй пісьменьніка, штогод праходзяць літаратурна-музычныя імпрэзы да дня яго народзінаў. Я нямала чытаў пра гэта ў прэсе, а сёлета атрымаў афіцыйнае запрашэньне ад моладзевай кампаніі «Рок-Салідарнасць» і лідэра грамадзкага аб'яднаньня «Рух за Свабоду» **Аляксандра Мілінкевіча**.

Чаму такі дзіўны сімбіёз гаспадароў імпрэзы? Бо дзяржава такімі маштабнымі асобамі не займаецца, а клопат самога Быкава ніколі не абмяжоўваўся толькі пісьменьніцкім дабрабытам, сягаючы да глыбінных памкненьняў душы народнай. Клопат пра стан роднай мовы, пра свабоду ў несвабодным грамадзтве адбіўся і ў ягонай публіцыстыцы, і ў грамадзкай дзейнасьці. І ўжо некалькі год на сьвяце ў Бычках усталявалася традыцыя ўшанаваньня нацыянальнай прэміяй «За свабоду думкі», заснаванай Аляксандрам Мілінкевічам. Еднымі лаўрэатамі станавіліся ўжо такія знакамітыя творцы, як паэта Уладзімір Някляеў, заснавальніца прыватнай мастацкай галярэі **Ада Райчонак**, публіцыст і пісьменьнік **Павел Севярынец** ды інш. Сама цырымонія ўзнагароджаньня іх станавілася і пляцоўкай для «вечна пагарджаных» беларускамоўных артыстаў у Беларусі – бардаў Зьмітра Бартосіка і Андрэя Плясанава, рок-гуртоў «Індра» ды «Рэха».

2012-ы ўнёс і новыя фарбы ў імпрэзу, бо лаўрэатамі сёлета сталі знакаміты яшчэ з савецкіх часоў пэдагог, стваральнік унікальнага школьнага музэю ў вёсцы Гудзевічы **Алесь Белакоз** (яго ведала сама **Ларыса Геніюш**, ён стаў адным з гэрояў нядаўна рэцэнзаванай мною ейнай кнігі «Лісты з Зэльвы») і – гэта ўпершыню – славуты рок-музыка, заснавальнік культавых нацыянальных рок-гуртоў «Мроя», «Zet», «N.R.M.» ды шэрагу аўтарскіх праектаў **Лявон Вольскі**.

Калі аксакал пэдагогікі асабіста прыехаў на пачэсную імпрэзу, дык Лявона Вольскага паведамленьне пра ўзнагароду застала ўдалечыні ад Радзімы, бо выступаць яму тут проста не даюць. Але з ініцыятывы кампаніі «Рок-Салідарнасць» песьні Лявона гучалі ў гэты дзень у Бычках. Цудоўна засьпяваў «Маё пакаленьне» лідэр гурта «P.L.A.N.» **Андрэй Плясанаў**, які ўдзельнічаў калісь у трыб'ют-праекце «Віза Незалежнай Рэспублікі Мроя». Гучалі й каронныя гіты самога Плясанава: «Наша спадчына», «Два шляхі», «Даміно». Парадаваў ён сабраных гасьцей (зь Менску й Віцебску, Прагі й Братыславы, Таліна й Варшавы) таксама навінкай свайго рэпэртуару – апрацоўкай народнай песьні «Ой ты, сонца». Гасьцям з Расеі настолькі спадабаліся мудрыя песьні гурта «P.L.A.N.», што многія зь іх павезьлі дамоў кнігу, дзе Андрэй Плясанаў разам з аўтарам гэтых радкоў разгарнуўся яшчэ і як палымяны змагар сусьветнай павуціны – «Rock on-line».

Акрамя таго па даручэньні ўсё той жа кампаніі «Рок-Салідарнасць» Андрэй правёў і свой міні-конкурс на веданьне сучаснай беларускай рок-музыкі, дзе прызамі сталі фірменныя кашулькі той ініцыятывы. Ну а значкі й каляндарыкі з эмблемай «Рок-Салідарнасьці» атрымалі практычна ўсе жадаючыя.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА**

# НОВЫЯ СУСТРЭЧЫ Ў ЕЎРАПЕЙСКІМ КЛУБЕ

20 чэрвеня Віцебск наведалі прадстаўнікі Беларускай Рады інтэлігенцыі: **Геннадзь Бураўкін, Уладзімір Колас, Валянцін Голубеў і Аляксей Марачкін**. Прысутныя азнаёміліся з асноўнымі накірункамі дзейнасці Рады, шматлікімі сферамі дзейнасці сяброў Рады, у тым ліку іграмадска-палітычнымі. Спрэчкі і дыскусію выклікала пазіцыя прадстаўнікоў Рады інтэлігенцыі да маючых адбыцца ў верасні выбараў у ПП НС БР. Госьці атрымалі запрашэнне наведаць Віцебск і з вялікай удзячнасцю прынялі яго.

А 24 чэрвеня гасьцямі Еўрапейскага клубу сталі вядомы літаратар і журналіст **Кастусь Севярынец** і кампазітар і таксама літаратар з Магілёва **Мікола Яцкоў**. Удзельнікам сустрэчы быў прэзентаваны новы зборнік лірыкі "Пока цветёт сирень" К.Севярынца з дэкламацыяй вершаў, што склалі гэты зборнік у выкананні аўтара. З вялікім задавальненнем прысутныя праслухалі нізку песень у выкананні М.Яцкова на вершы К.Севярынца, у тым ліку і прапанаваны на конкурс варыянт новага гімну горада Віцебска.



**«НАША ЖИЗНЬ»** – общественная газета. Издатель – коллектив редакции. Выходит нерегулярно. Тираж **299** экземпляров. Редактор – **Христафор Желяпов**. Вёрстка – **Сергей Солидный**. Напечатана на частном оборудовании на свои средства и с помощью единомышленников.
**http://kamunikat.org/naszaje_zyccio.html**

# СУСТРЭЧЫ НА СЯДЗІБЕ СІКОРЫ

Выдаўцы ARCHE сустрэліся з чытачамі на сядзібе **Івана Сікоры**.

Выдавец **Валер Булгакаў** і гісторык **Алесь Пашкевіч** сустрэліся з чытачамі з нашага рэгіёна і прэзентавалі новыя выданні з серыі "Кнігарня ARCHE".

Сустрэча адбылася 29 красавіка ў вёсцы Малыя Алашкі Шаркоўшчынскага раёна, у доме, дзе раней



жыў таленавіты садавод і шчыры патрыёт Іван Сікора.

На мерапрыемстве прысутнічалі грамадскія актывісты з Браслава, Германавічаў, Глыбокага, Паставаў, Шаркоўшчыны. Яны ўдзельнічалі ў талацэ – наводзілі парадак на сядзібе Сікоры – прыбіралі з зімы, падразалі гальлё і старыя дрэвы.

Валер Булгакаў і Алесь Пашкевіч доўга распавядалі пра новыя гістарычныя кнігі – "Краёвыя слоўнікі" Віцебшчыны і Чэрвеньшчыны, "Полацкую рэвізію 1552 года" і "Кнігу магістрата места Полацка 1727 года", "Партызанскую вайну ў Беларусі ў 1941 – 1944 гадах", "Забыты гарнізон. Аддзелы Корпуса аховы памежжа ў Івянцы ў 1924-1939 гадах" ды іншыя…

Выданні "Кнігарні ARCHE" не прадаюцца нідзе ў нашым рэгіёне. Няма іх і ў мясцовых бібліятэках. Здабыць гэтыя кнігі можна толькі ў лічаных месцах у Мінску ці замовіць на сайце "ARCHE". Нядзіва, што ўдзельнікі сустрэчы ўважліва слухалі выступоўцаў і ахвотна набывалі кнігі.

"Усе, хто быў на сустрэчы, набывалі кнігі. Некаторыя ахапкі кніг неслі. Хоць і дарагія – 30-40 тысяч, некаторыя больш за 100 тысяч. Людзі былі вельмі задаволеныя", - распавядае грамадская дзяячка **Ада Райчонак.** Яна папоўніла сваю хатнюю бібліятэку шасцю выданнямі.

"Добрыя, прыемныя людзі. Цёплая сустрэча. Калі б было больш грошай, я набыла б усе кнігі", - жартуе **Ганна Базарэвіч** з Браслава.

Станоўча адгукаецца пра сустрэчу і рэдактар ARCHE Валер Булгакаў. "Вельмі важна, што ў людзей, якія прыйшлі на сустрэчу, застаўся "білет на развітанне". Адна справа - мімалётны кантакт, гадзіна-паўтары гадзіны мерапрыемства, іншая - кніга, якая застанецца на гады", - сказаў спадар Валер карэспандэнту "Вестак".

**Кастусь Шыталь**

# НОВАЯ КНІГА АРЛОВА Ў ВІЦЕБСКУ

У Віцебску прэзентавалі кнігу **Уладзімера Арлова** "Пакуль ляціць страла".

Разам са спадаром Арловым у віцебскім Еўрапейскім клубе выступіў паэт, старшыня Пэн-цэнтру **Андрэй Хадановіч.**







Як паведамляе Радыё Свабода кніга Уладзімера Арлова, якая выйшла ў сэрыі "Бібліятэка Свабоды", – гэта сто адказаў пісьменьніка на пытаньні чытачоў падчас сустрэч у бібліятэках і ля вогнішчаў, выступаў на кватэрах і ва ўнівэрсытэтах. У тым ліку ў кнігу ўвайшлі і адказы на пытаньні жыхароў Віцебску, якія гучалі падчас ранейшых творчых сустрэчаў.

Кнігу "Пакуль ляціць страла" Уладзімер Арлоў падарыў сям'і вязьня **Сяргея Каваленкі** – падпісаў яе Сяргею і яго жонцы Алене, якая прыйшла на сустрэчу. Атрымаць аўтографы літаратараў маглі і ўсе ахвотныя.

Празаічныя аповеды Уладзімера Арлова чаргаваліся зь вершамі і перакладамі Андрэя Хадановіча, і віцебскія аматары беларускага літаратурнага слова прымалі абодвух вельмі цёпла. Многія слухалі выступоўцаў стоячы – у "Эўрапейскім клюбе" проста не хапіла крэслаў для ўсіх.

Нагадаем, што сустрэчы ў Віцебскім Еўрапейскім клубе звычайна адбываюцца па чацьверах два разы на месяц, даведацца пра наступныя сустрэчы можна па тэл.27-23-39.

# НА РАДЗІМЕ БЫКАВА СВЯТА

На радзіме Быкава адзначылі гадавіну нараджэння пісьменніка. Штогод 19 чэрвеня на радзіме вялікага пісьменніка Васіля Быкава, у весцы Бычкі Вушацкага раёна, людна.

І сёлета з розных куткоў Беларусі сюды скіравалі свае шляхі прыхільнікі вольнага слова, каб ушанаваць памяць знакамітага мастака слова, сапраўднага сына сваёй Айчыны. Каб на поўныя грудзі ўздыхнуць ап'яняючы водар вольнага паветра Вушацкай зямлі, скарбніцы талентаў і самародкаў, сярод якіх – **Пятрусь Броўка, Еўдакія Лось, Рыгор Барадулін,Сяргей Законнікаў** і шмат, шмат іншых.

Нездарма вось ужо сёмы год тут уручаюць прэмію «За свабоду думкі» (якая падобная да прэміі Еўрапейскага парламента імя А. Сахарава), заснаваную рухам «За Свабоду» пад кіраўніцтвам Аляксандра Мілінкевіча і ўручаецца выбітным беларускім культурным і грамадскім дзеячам. У папярэднія гады прэмію атрымлівалі **Уладзімір Арлоў, Рыгор Барадулін, Павал Севярынец, Ада Райчонак, Алесь Пушкін, Уладзімір Някляеў.**






Госці з Віцебска запаздвалі – зламаўся аўтобус. Тым часам прысутныя пісалі нацыянальную дыктоўку, якую зачытвала **Зінаіда Бандарэнка.** З прамовамі выступілі: **В.Грыб, А. Мілінкевіч, У.Арлоў, А. Пушкін, І. Навумчык** і іншыя аратары.

Сёлета прэмію "За Свабоду Думкі" атрымалі два чалавекі. Заслужаны настаўнік Беларусі, заслужаны дзеяч культуры, 84-гадовы **Алесь Белакоз** з вёскі Гудзевічы Мастоўскага раёна. Ён жа стварыў унікальны Гудзевіцкі дзяржаўны літаратурна-гістарычны музей і адным з першых быў ушанаваных медалём імя Францыска Скарыны. Дарэчы, ён сам сябе вылечыў ад раку і звярнуўся да прысутных з заклікам звяртацца да яго, «калі лекі не дапамагаюць».

Другім лаўрэатам прэміі «За свабоду думкі» стаў музыка **Лявон Вольскі,** але ён на ўрачыстасці не прысутнічаў, бо цяпер знаходзіцца ў Чарнагорыі.

Музыкі з Лепеля і бард Андрэй Плясанаў падлілі алею у агонь ўзнёслага настрою прысутных.

Скончылася імпрэза сімвалічным абедам на падворку дома брата Васіля Быкава, што побач з буслянкай, у якім шмат хто з прысутных у свой час сустракаўся і трапезнічаў з пісменнікам. Знайшліся жадаючыя і патанчыць.

**Яўген Самсонаў**

# "РЭХА" ЗНОЎ ГУЧАЛА Ў ГЕРМАНАВІЧАХ

Беларускамоўны гурт "Рэха" з Менску выступіў на ганку касцёла Перамянення Гасподняга ў мястэчку Германавічы (Шаркоўшчынскі раён). Было гэта 10 чэрвеня, адразу пасля Імшы з удзелам біскупа **Уладзіслава Бліна.**

Саліст гурта "Рэха" **Андрусь Такінданг** праспяваў песні "Гражына", "Няма дурняў", "Машына", "Яблыня", "Трактар "Беларус". Андрусь заклікаў гледачоў спяваць разам, але яны падпявалі не вельмі ахвотна. Калі "рэхаўцы" скончылі граць і спяваць, некалькі бабулек выгукнулі "Дзякуй Вам!". Канцэрт спадабаўся людзям.

Сёлета "Рэха" часта грае ў нашым рэгіёне. 19 траўня яны выступілі ў Лучаі на фэсце Андрэя Баболі, 26 траўня – на бардаўскім фэсце ў Германавічах.

Гурт Андруся Такінданга ператварыўся ў лакальны музычны феномен. Пакуль беларускія гурты дзеляцца дзяржавай і гледачамі на «нашыя» і «не нашыя», "Рэха" стаіць асобна — беларускамоўная поп-музыка, якой у нас мала, прыйшлася да густу ўсім. "Рэха" можна пачуць на дабрачынных канцэртах, у маленькіх і вялікіх клубах, ва ўсялякіх інтэрнэт-чартах і проста на вуліцы.



Гурт "Рэха". Злева направа - **Віктар Паўлічэня** (акардэон), **Леанід Паўлёнак** (барабаны), Андрусь Такінданг, **Яўген Шурмей** (гітара). Фота Кастуся Шыталя.

**Кастусь Шыталь**